# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 6 (676) 9 ЛЮТАГА 1969 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

## ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ГП

27-га студзеня адбылося пашыранае пасяджэнне прэзідыума ГП. Узялі ў ім удзел старшыні аддзелаў, інструктары ГП на паасобныя аддзелы і працаўнікі ГП.

Першым пунктам павесткі дня была абмяркоўка справаздачы з дзейнасці БГКТ у мінулым годзе, якую злажыў сакратар ГП Уладзімір Юзвюк. Другім пунктам павесткі былі справы звязаныя са справаздачна-выбарчай кампаніяй у аддзелах.

У час дыскусіі многа ўвагі звярталася на працу вясковых гурткоў БГКТ, на іх цяжкасці, на разгортванне імі аматарскага руху, на падрыхтоўку мастацкіх калектываў да агляду самадзейнасці нацыянальных меншасцей, на іх актывізацыю ў справаздачна-выбарчай кампаніі. Удзельнікі пасяджэння выказалі многа крытычных уваг да зместу календара, а перш за ўсё да календарыума. У дыскусіі забіралі голас: Васіль Дзун, Алесь Баршчэўскі, Георгі Валкавыцкі, Віктар Швед, Уладзімір Раеўскі, Міхась Хмялеўскі, Янка Палоцкі, Віктар Бура, Вінцук Склубоўскі і прадстаўнік унутраных спраў Ваяводскай рады нарадовай. У пасяджэнні гэтага прэзідыума прыняў таксама ўдзел прадстаўнік Ваяводскага камітэта ПАРП Ян Зялінскі.

## НЕКАТОРЫЯ ФАКТЫ З МІНУЛАГА ГОДА

На Гайнаўшчыне зараз існуе 70 гурткоў БГКТ, у якіх налічваецца 2133 члены. У 1968 годзе арганізавана 6 новых гурткоў. Членскіх складчын аплочана на суму 7.059 зл. Аддзел арганізаваў 88 усялякіх мерапрыемстваў з нагоды розных гадавін (фестыны, сустрэчы, вечарыны, акадэміі, даклады). Апрача гэтага адбылося па 13 аўтарскіх сустрэч з паэтамі Алесем Барскім і Віктарам Шведам.

Кінаперасоўкай ГП высветлена 52 савецкія фільмы, эстрада ГП «Лявоніха» дала 37 канцэртаў; эстрада Гайнаўскага аддзела — 10 выступленняў. Існуе ў павеце 21 аматарскі калектыў. Падрыхтавана было 82 фотавыстаўкі з жыцця БССР.

У рамах добраахвотных складчын на будову этнаграфічнага музея аддзел сабраў ад насельніцтва 4 820 зл.

Аддзел цесна супрацоўнічае з палітычнымі і грамадскімі арганізацыямі, з радамі нарадовымі, з установамі і прадпрыемствамі, бібліятэкамі, клубамі «Руху».

## СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫ СХОД

12-га студзеня ў Мілейчыцкім гуртку БГКТ, які налічвае 144 члены, адбыўся справаздачна-выбарчы сход. Даклад аб працы гуртка прачытала сакратар гуртка Святлана Пешка. Удзельнікі схода выбралі новае праўленне гуртка на чале з Сяргеем Крэйзам, а таксама дэлегатаў на канферэнцыю аддзела, якая адбудзецца ў сакавіку.

На гэтым сходзе прысутныя ўплацілі членскія складчыны на суму 1 020 зл. Вёў сход Сяргей Крэйза.

## ВЕЧАРЫНА

Жаночы харавы калектыў БГКТ у Гарадку 25 студзеня арганізаваў у святліцы пачатковай школы вечарыну, у якой узялі ўдзел мужы харыстак. Удзельнікі вечарыны весела гулялі аж да самай раніцы. (мх)



Ад 10 па 12 лютага г.г. у Варшаве адбудзецца VII Кангрэс ЗСП (Аб'яднанне польскіх студэнтаў). ЗСП з'яўляецца ўсеагульнай студэнцкай арганізацыяй у Польшчы і членам Міжнароднай арганізацыі студэнтаў. Кангрэс будзе адбывацца пад агульным лозунгам: **«Добрасумленнай навукай і грамадскім заангажаваннем служым сацыялістычнай айчыне».** Мікрачасткай вялікай студэнцкай сям'і з'яўляюцца студэнты беларускай кафедры Варшаўскага універсітэта. Аб кафедры і аб іх, студэнтах, пойдзе ніжэй рэч.

# НАША ФІЛАЛОГІЯ

У грамадскай і культурна-асветнай дзейнасці беларусаў прывыклася гаварыць, што кафедра беларускай філалогіі УВ гэта «наша кафедра». Такая думка, можа несвядома прадуманая, мае многа сапраўднага. Утварэнне кафедры было падыктавана не толькі чыста навуковымі патрэбамі, але і сталася рэалізацыяй палітыкі партыі ў галіне развіцця нацыянальнай асветы і культуры нацыянальнай меншасці. Не малыя заслугі ў стварэнні беларускай філалогіі мела БГКТ. Нястомны арганізатар кафедры і па сённяшні дзень яе загадчык **праф. др А. Абрэмбска-Яблонская** магла і можа лічыць на маральную дапамогу. А гэта таксама дае права назваць «нашай кафедрай».

Называць «нашай філалогіяй» ёсць права і таму, што тут працуюць м. інш. нашыя з Беласточчыны навуковыя работнікі др А. Баршчэўскі ці мгр мгр М. **Врублеўскі і А. Багроўская** ўжо абсальвенты кафедры бел. філалогіі УВ. **Мгр М. Чурак** працуе навуковым работнікам у Акадэміі навук. У суме кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта выпусціла ў свет 40 магістраў, высокакваліфікаваных спецыялістаў беларускай мовы і літаратуры. Некаторыя з іх, як вышэй указана, навуковыя работнікі, іншыя працуюць у выдавецтвах, аднак, асноўная іх колькасць — гэта настаўнікі. Можа не надта добра, што нямногія толькі з іх працуюць на Беласточчыне, а калі і так, дык не заўсёды вучаць беларускай мовы. Але гэта ўжо іншая справа. Важным ёсць тое, што настаўнікаў, абсальвентаў кафедры, якія маючы пабочную спецыялізацыю і ў іншых ваяводствах навучаюць рускую мову — хваляць. Зараз на кафедры маецца тры курсы (I, III і V) і 36 студэнтаў. Навуковай кадры 5 чалавек, з таго: адзін прафесар, двух доктараў навук і двух магістраў. Усе студэнты, якія паходзяць з Беласточчыны, абяспечаны закватараваннем у дамах студэнта і атрымліваюць стыпендыі. Агулам стыпендыі атрымлівае 21 студэнт. Дзеля інфармацыі трэба напомніць, што на кожным з курсаў ёсць студэнты не з Беласточчыны. Вельмі салідна прыступаюць яны да вывучэння бел. мовы і ўжо пасля I семестра гавораць не найгорш па-беларуску.

Навуковыя зацікаўленні студэнтаў? У асноўным можна іх падзяліць на: **літаратурныя,** дзе, між іншым, рэч ідзе аб беларуска-польскія сувязі, і **мовазнаўчыя.** У мовазнаўчых можна вылучыць 3 напрамкі: а) народныя гаворкі Беласточчыны, б) гісторыя помнікаў беларускай пісьменнасці, напрыклад, дакументы Вялікага княства Літоўскага, Біблія Скарыны і інш. і в) анамастыка — навука аб назвах, мясцовасці і асоб пад уплывам беларушчыны. Усё шырэй развіваюцца сувязі з БССР. Супольна друкуюцца артыкулы

Працяг на стар. 4

Развіццё вясковага гандлю

# СЯЛЯНСКІЯ МІЛЬЯРДЫ

За мінулы год вясковы гандаль на Беласточчыне закупіў ад гаспадароў збожжа, мяса і іншых сельскагаспадарчых пладоў на суму каля трох мільярдаў злотых. Гэта добры вынік, тым больш, што закуплена на 224 мільёнаў злотых больш, чым планавалася.

Сведчыць гэта аб росце пакупной сілы вёскі.

Патрэбна штораз больш тавараў і, шчыра кажучы, лепшых тавараў, дарагіх. Гаспадары хочуць бачыць у сваіх хатах добрую мэблю («высокі полыск»), дарагія тэлевізары, моднае адзенне, машыны хатняга ўжытку: швейныя, сціральныя, халадзільнікі, пыласосы і т.п. Запатрабаванне вёскі расце да таго хутка, што вялікая прамысловасць не паспявае з вырабам неабходнай колькасці прамысловых тавараў. Усё яшчэ замала будзе пыласосаў і сціральных машын, мэблі і матацыклаў. Дарэчы падкрэсліць, што падобная сітуацыя і ў падажы сельскагаспадарчых машын, а мо нават і горшая. Патрэбы ў многіх сельскагаспадарчых машынах будуць заспакоены ўсяго напалавіну, асабліва, рознага тыпу апырсквальнікаў, снапавязалак, нават сеялак.

Дзіўная сітуацыя нашага гандлю, які мала што можа прапанаваць: усё, што мае, прадае «ад рукі», зараз жа. Не гандаль апярэджвае патрэбы пакупніка, але наадварот: пакупнік чуць не з бічом у руцэ падганяе гандаль. І таму не дзіўна, што ГС-аўскія крамы спакайней адчуваюць сябе толькі ў некаторых, болей адсталых ды бяднейшых раёнах Дуброўшчыны ці Сакольшчыны, або паўднёвай Гайнаўшчыны. Цяперашні вясковы гандаль перажывае свае «цяжкасці росту», бо настаў час гвалтоўнага прыбою грошай у вёску.

Разгортваецца будаўніцтва. Калі яшчэ два гады таму назад можна было пачуць нараканні кладаўшчыкоў, што марнуецца на складах цэмент, зараз такога не пачуеш, хаця прыдзелы цэменту значна павялічыліся. Лягчэй дастаць яго ўзіму, калі будаўнічы сезон проста не існуе. Той, хто патрабуе яго на весну, павінен купіць сёння ж. Так падказвае славуты здаровы розум.

Вясковы гандаль, яго сялянскія актывісты, мараць аб тым, каб гаспадар не быў вымушаны траціць часу на паездкі ў гарады за пакупкамі розных патрэбных рэчаў і тавараў. Гэта мара несумненна збудзецца, пытанне толькі — калі? Так ці іначай, гандлёвыя ўстановы рыхтуюцца да будучых шчаслівых часоў і вельмі энергічна разбудоўваюць свае базы. Перш за ўсё, неабходна закінуць практыку будавання ў мястэчках крамаў у розных месцах, усе іх размясціць у адным месцы. Паводле правілаў рынку. Узнікаюць ужо першыя гандлёвыя цэнтры ў Чорнай Беластоцкай і Цеханоўцы. Разам будзе іх 52. Пачынаючы ад наступнага года штогод будзе збудавана па 6—8 такіх цэнтраў — на падабенства ўнівермагаў.

Калі ж гаворым аб продажу сельскагаспадарчых пладоў адразу паўстаюць нам перад вачыма цесныя склады, замурзаны і злосны кладоўшчык, вялікая чарга фурманак перад складам. Такі вобраз хутка застанецца толькі ўспамінам. Беласточчыну пакрые сетка збожжавых складаў, аддаленых ад сябе не больш 12—15 кіламетраў, высокамеханізаваных, спраўна і дакладна абслугоўваючых гаспадара, які не павінен траціць дарма часу яшчэ на тое, каб прадаць сваю цяжкую працу. У непасрэднай блізкасці складаў павінны быць размешчаны ўсе патрэбныя крамы і канторы, словам, база, а будзе іх 142. Столькі патрэбна, каб жылося хутчэй і выгадней.

Бо, вясковы гандаль, гэта продаж і купля, гандаль прадае, гандаль купляе; гаспадар прадае, гаспадар купляе. Такі парадак рэчаў. Гаспадар мусіць быць трактаваны, як роўны з роўным. Іначай не можа быць і гутаркі аб уплыве вясковага гандлю на хуткі ўздым нашай вёскі. Прапорцыя гэта абавязкова адвернецца, гандаль перастане, ужо перастае, плясціся ў хвасце за гаспадаром. Каб толькі як найхутчэй.

(ся)

 

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі


## СВЕТ

## БССР

## ПОЛЬШЧА

## ВАЯВОДСТВА

### ВЕСТКІ З ЧЭХАСЛАВАКІІ

У Чэхаславакіі адбылося пасяджэнне Федэратыўнага парламента, які зараз складаецца з дзвюх раўнапраўных палат. Народная палата, якая складаецца з 200 членаў выбіраемых ва ўсеагульным галасаванні, і палата нацый, якая складаецца з 150 членаў выбіраемых па 75 членаў Чэшскай радай нарадовай і Славацкай радай нарадовай. Гэтыя дзве палаты раўнапраўныя і яны складаюць Федэратыўны сход Чэхаславакіі — найвышэйшую ўладу ЧССР, які выбірае на 5 год прэзідэнта.

Федэратыўны ўрад паклікае прэзідэнта. На яго чале стаіць прэм'ер і 4 намеснікаў (2 чэхаў і 2 славакаў). Федэратыўны ўрад складаецца з 7 міністраў: замежных спраў, нацыянальнай абароны, унутраных спраў, планавання, замежнага гандлю, працы і грамадскай апекі. Да гэтага даходзіць 2 міністраў без надзелу і 7 аддзелаў: цэн, тэхнічнага развіцця промыслу, сельскай гаспадаркі і харчавання, камунікацыі, пошты, друку і інфармацыі. Калі міністрам або кіраўніком аддзела ёсць чэх, дык яго намеснікам славак, і наадварот.

Агулам у Чэхаславакіі зараз налічваецца: 3 прэм'ераў, 8 намеснікаў і 41 міністр.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ПАРЫЖЫ

Канферэнцыя ў справе В'етнама ў Парыжы працягваецца. Усе з нецярплівасцю чакаюць на становішча новай ніксанаўскай адміністрацыі ў гэтай справе. Уласціва кажучы, мінулы тыдзень не прынёс ніякага адказу на гэтае пытанне. Штопраўда, ніхто не спадзяваўся і не спадзяецца хуткай развязкі в'етнамскай праблемы. Як доказ гэтага некаторыя каментатары прыводзяць прыклад, што канферэнцыя ў справе Карэі працягвалася 2 гады і адбылося 500 пасяджэнняў.

### ЦІ ДОЙДЗЕ ДА КАНФЕРЭНЦЫІ ЧАТЫРОХ?

Справа мірнага ўрэгулявання спраў на Блізкім Усходзе таксама чакае на новую амерыканскую адміністрацыю. Францыя запрапанавала, каб адказнасць за ўладкаванне сітуацыі на Блізкім Усходзе ўзялі на сябе 4 вялікія дзяржавы ў рамках ААН або па-за ёю. Савецкі Саюз згадзіўся з гэтым і запрапанаваў, каб пастанову Савета Бяспекі ў справе Блізкага Усходу рэалізаваць этапамі. Вялікабрытанія згадзілася на сустрэчу чатырох. Ад ЗША адказу пакуль няма. Калі пішам гэты матэрыял, да нас паступіла звестка, што відныя прадстаўнікі ЗША звярнуліся да Ніксана з просьбай, каб ён згадзіўся на такую сустрэчу.

### ЗАМЕЖНЫ ГАНДАЛЬ СССР...

...павялічыўся ў 1968 г. на 9 працэнтаў у параўнанні да мінулага года. СССР мае дадатні гандлёвы баланс. Дзве трэціх таварнага абароту прыпадае на краіны РЭУ (сярод іх першае месца займае ГДР, далей Чэхаславакія і Польшча), 20 прац. на капіталістычныя краіны і 12 прац. на краіны трэцяга свету.

А. К.

### ПЛАНА

Апублікавана вынікі выканання Дзяржаўнага плана развіцця народнай гаспадаркі Беларускай ССР у 1968 годзе. Вось некалькі даных у параўнанні да 1967 года.

Нацыянальны даход павялічыўся на 9 працэнтаў, прадукцыя прамысловасці — на 12 працэнт., прадукцыя сельскай гаспадаркі — на 2,3 працэнта. З 1 студзеня 1968 г. павялічаны мінімальныя размеры заработнай платы рабочых і служачых усіх галін народнай гаспадаркі з 40—45 рублёў да 60 рублёў у месяц.

### УЛЬТРАГУКАВАЯ

Аўтаматызаваная ўльтрагукавая ўстаноўка з праграмным кіраваннем пушчана ў эксплуатацыю на Магілёўскім ложкавым заводзе. Асноўнае абсталяванне спраектавана і выраблена ўмельцамі прадпрыемства. За змену ачышчае ад акалін, іржы, шмараў і бруду звыш пяці тысяч металічных дэталей рознай канфігурацыі.

### ЛІСТ

Касманаўты У. Шаталаў, Б. Валынаў, А. Елісееў, Я. Хруноў прыслалі ў рэдакцыю цэнтральнай беларускай газеты **«Звязда»** ліст чытачам, у якім м. ін. пішуць:

«Дарагія сябры, працаўнікі Беларусі! Ёсць і ваша велізарная доля ў тым, што наша вялікая Радзіма першая ў свеце ажыццявіла запуск першага касмічнага карабля з чалавекам на борце, а ў гэтыя дні зрабіла магчымым наш групавы палёт на караблях «Саюз — 4» і «Саюз — 5».

### МАНЮШКІ

У маі гэтага года спаўняецца 150 гадоў з дня нараджэння выдатнага кампазітара, заснавальніка польскай нацыянальнай класічнай оперы Станіслава Манюшкі. Урачыстасці адбудуцца ў Мінску і на радзіме кампазітара — у беларускай вёсцы Убель Чэрвеньскага раёна.

### ВЯЛЮГІНУ

За заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры і дакументальнага кіно пісьменніку Вялюгіну Анатолю прысвоена ганаровае званне заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

### КОНКУРС

Закончыўся вялікі конкурс-віктарына **«Ці ведаеш ты сваю Беларусь?»**. Першую ўзнагароду здабыў Віктар Марыганаў з Віцебска.

### ГРУПУ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР узнагародзіў Ганаровымі граматамі і Граматамі групу работнікаў Беларускага тэлебачання, якія прымалі актыўны ўдзел у стварэнні шматсерыйнага тэлевізійнага фільма **«Біяграфія маёй рэспублікі»**.

### ЛЯВІЦКАЯ

На 73-ім годзе жыцця памерла Ванда Лявіцкая, пісьменніца, дачка вядомага беларускага празаіка Ядвігіна Ш.

(С. Я.)



◆ На здымку: Прэзідыум Ваяводскай справаздачна - выбарчай канферэнцыі ПАРП у Беластоку. На першым плане (злева): намеснік члена Палітбюро, сакратар ЦК Мечыслаў Мочар, I сакратар ВК Аркадзюш Лашэвіч і сакратар ВК — Станіслаў Кудла. ◆

## ВАЯВОДСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Польская аб'яднаная рабочая партыя — кіруючая сіла нашай краіны. Таму Ваяводская справаздачна-выбарчая партыйная канферэнцыя, якая адбылася 30 і 31 студзеня г.г. у Беластоку, мае асноўнае значэнне для развіцця паўночна-ўсходняга раёну Польшчы. Ад імя амаль 58-тысячнай партыйнай арганізацыі горада Беластока і Беластоцкага ваяводства сабралося ў сядзібе Ваяводскага камітэта ПАРП 270 дэлегатаў. Сярод іх знайшлося 70 актыўных рабочых і 60 перадавых гаспадароў.

Цэнтральныя партыйныя ўлады на Беластоцкай канферэнцыі прадстаўлялі: намеснік члена Палітбюро, сакратар ЦК ПАРП — тав. М. Мочар і намеснікі кіраўнікоў аддзелаў ЦК: арганізацыйнага — тав. Э. Олубка і культуры — тав. Э. Квятэк. Гасцьмі канферэнцыі былі: старшыня Ваяводскага камітэта ЗСЛь — Ян Рызнар, старшыня Ваяводскага камітэта СД — Р. Бартнік і старшыня прэзідыума ВРН у Беластоку — С. Жмійка.

Усе дэлегаты атрымалі загадзя надрукаваныя асноўныя дакументы: справаздачу Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку са сваёй дзейнасці за мінулыя два гады і праект партыйнай праграмы на 1969 і 1970 гады.

Гэтыя дакументы і ўступнае слова члена ЦК ПАРП і I сакратара Ваяводскага камітэта ў Беластоку тав. А. Лашэвіча сталіся асновай шырокай і змястоўнай дыскусіі, у час якой усебакова ацэнена 2-хгадовы перыяд дзейнасці партыйнай арганізацыі на Беласточчыне.

Усе заданні, прадбачаныя гаспадарчым планам на 1967 і 1968 гады, былі паспяхова выкананы, а ў многіх выпадках перавыкананы. Гаспадарка ваяводства развіваецца дынамічна, выпярэджваючы ў некаторых паказальніках тэмпы развіцця іншых раёнаў Польшчы. Гаспадары Беласточчыны дабіліся ўраджаю, якога дагэтуль не было на беластоцкай зямлі.

Рабочыя на канец 1968 года дабіліся ў параўнанні да 1966 года агульнага прыросту прамысловай прадукцыі на 26,3 працэнта. У справаздачным перыядзе пачалі працу новыя прадпрыемствы: бетанярня ў Снядове, «Спомаш», прадпрыемства пераапрацоўкі фруктаў і прадпрыемства глязуры ў Беластоку, цагельня ў Ляўкове, швейны камбінат, мэблевая фабрыка ў Сувалках, півашрня ў Ломжы і шмат іншых меншых прадпрыемстваў.

Дэлегаты пазітыўна ацанілі справаздачу, а затым прынялі праграму дзейнасці на наступныя два гады.

У час дыскусіі выступіў тав. Мечыслаў Мочар. Ён высока ацаніў дзейнасць беластоцкай партыйнай арганізацыі.

Дэлегаты на канферэнцыю выбралі новыя ваяводскія партыйныя ўлады. У склад Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку ўвайшло 79 членаў, якія прадстаўляюць розныя асяроддзі грамадства Беласточчыны. Выбрана таксама 18 намеснікаў членаў ВК. Ваяводскі камітэт на сваім першым пасяджэнні, якое адбылося вечарам 31 студзеня, выбраў экзекутыву ВК ПАРП і Сакратарыят ВК ПАРП. У склад Экзекутывы ўвайшлі: Р. Кавальскі, Д. Карповіч, М. Кірылюк, С. Кудла, А. Лашэвіч, В. Мікульскі, А. Младзяноўскі, Б. Нарэнгоўскі, К. Новак, Д. Пэндзік, Ю. Родзік, С. Рубчэўскі, Ю. Трусевіч, Э. Шчэпаньскі і В. Юшкевіч. У склад Сакратарыята ВК увайшлі: А. Лашэвіч, С. Кудла, В. Мікульскі, А. Младзяноўскі і С. Рубчэўскі. Першым сакратаром ВК ПАРП у Беластоку аднагалосна быў выбраны А. Лашэвіч. Выбрана таксама Ваяводскую рэвізійную камісію, старшынёю якой астаўся Э. Ган. Новавыбраную Ваяводскую камісію партыйнага кантролю ўзначаліў М. Кірылюк.




**Niedziela, 9.II.**

8.35 Program dnia. 8.40 Kurs Rolniczy: „Potrzeby nawożenia mikroelementami”. 9.15 „Przypominamy, radzimy”. 9.25 PKF 9.35 „Melodie na dzień dobry”. 10.00 „Żelazo w rękach artysty”. 10.25 „Poszukiwany Gruppenführer” — film TVP („Stawka większa niż życie”). 11.20 „Wczoraj i dziś Konina” — film pol. 11.35 Dziennik. 11.45 „Sezam muzyczny”. 12.25 „Francuska Nowa Fala” („W starym kinie”). 13.15 Finał VII Ogólnopolskiej Olimpiady Rolniczej. 14.00 Dla dzieci: M. Kownacka — „O straszliwym smoku i dzielnym szewczyku, prześlicznej królewnie i królu gwoździku”. Widowisko Państwowego Teatru Lalek we Wrocławiu. 14.50 „Szlakiem zabytków”. 15.10 „Cyrkowy wóz”. 16.15 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie (pokazy mistrzów). 18.00 „Operacja Trójmiasto” („Polacy na frontach II wojny światowej”). 18.20 Estrada Literacka. M. Białoszewski: „Zegar cię woła”. 19.05 „Nocny patrol” („Ludzie i zdarzenia”). 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.00 Felieton ze Zjazdu Pisarzy w Bydgoszczy. 20.15 „Bezkresne niebo” — film fab. USA (western). 22.15 Wiadomości sportowe.

**Poniedziałek, 10.II.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 23.05 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec”. 17.30 Magazyn Sportowy. „Echo stadionu”. 17.55 „Lekarz w fabryce”. 18.20 „Przewoźnicy” — film kanad. 18.40 „Eureka”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: O. Wilde — „Wachlarz Lady Windermere”. ok. 21.35 „Panorama Literacka”. 22.15 Kino Krótkich Filmów. 22.40 Dziennik.

**Wtorek, 11.II.**

9.00 Dla szkół (kl. II lic.) Język polski. Aleksander Fredro: „Zemsta”. 9.30 Przerwa. 10.00 Dla szkół (kl. IV) „Tam gdzie powstaje tkanina”. 10.20 „Zdradzona ziemia” — film fab. radz. 12.00 Dla szkół (kl. II—III) „Za Ojczyznę”. 12.20 Przerwa. 12.45 i 14.55 „Przysposobienie Rolnicze”: „Opłacalność produkcji zbóż”. 15.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.40 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 „Dziewczęta z Nawojki” — film pol. dok. 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wszyscy do domu” — film fab. wł. 21.55 „Kto wychowuje studenta”. 22.25 Dziennik.

**Środa, 12.II.**

9.00 „Wszyscy do domu” — film fab. wł. 10.55 Dla szkół (kl. VII) „Energia potencjalna i kinetyczna”. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie: „Szkolimy fachowców”. 12.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 Matematyka w szkole: „Rzut wektora na prostą — zastosowanie”. 15.30 i 22.50 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Jak dawniej mieszkano” (Klub pod Smokiem”). 17.20 Telewizyjny Kurier Warszawski. 17.35 „Gorąca linia”. 18.10 „Sylwetka kompozytora' — Henryk Mikołaj Górecki. 18.45 „Rok 2000”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Cena wdzięczności” — film („Alfred Hitchcock przedstawia”). 20.50 „Światowid”. 21.20 PKF 21.50 „Tortura nadziei” — film TVP. 22.00 „Pejzaże”. 22.30 Dziennik.

**Czwartek, 13.II.**

9.55 Dla szkół (kl. VIII) Historia: „My z głodujących miast”. 10.25 „Poza nawiasem” — film fab. ang. 11.50 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. I lic. i XI) Język polski: „Poezja polityczna”. 13.15 Mechanizacja rolnictwa: „Mechanizacja zbioru zielonek”. 13.50 Przerwa. 14.50 Program dnia. 14.55 „Mechanizacja rolnictwa”. „Mechanizacja zbioru zielonek”. 15.30 i 22.50 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem”. 17.50 „Telekram”. 18.00 Telewizyjny Kurier Kielecki. 18.15 „Człowiek a Ziemia”. 18.45 „Stara i nowa scena baletowa”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Nad Odrą i Bałtykiem”. 20.35 „Poza nawiasem” — film fab. ang. 22.00 „Refleksje”. 22.30 Dziennik.

**Piątek, 14.II.**

10.00 „Jej życie” — film fab. radz. 11.00 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII). Wychowanie plastyczne: „Tadeusz Makowski”. 12.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 „Wybieramy zawód”. 15.30 i 22.40 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Kino Ptyś”. 17.00 Dla dzieci: „Zręczne ręce”. 17.20 Telewizyjny Kurier Mazowiecki. 17.35 „Nie tylko dla pań”. 17.55 „Don Kichot” — film cz. II. 18.20 Wszechnica TV: „W pracowniach polskich uczonych”. 18.50 „Definicje” — teleturniej. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Czwarta Zmiana”. 20.35 Teatr TV. A. Strindberg: „Taniec śmierci”. ok. 21.45 „10 minut recenzji”. 21.55 „Na przykład Golczewo”. 22.20 Dziennik.

**Sobota, 15.II.**

9.15 „Zwykły człowiek” — film fab. radz. 10.55 Dla szkół (kl. V) Geografia: „Na wyspach Japonii”. 11.25 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 Kurs Rolniczy: „Specyfika uprawy gleb lekkich”. 16.05 Program Tygodnia. 16.30 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Konkurs pięciu milionów”. 17.45 „Wielkie rybołóstwo” — film („Encyklopedia morza”). 18.30 „Warszawa, ja i Ty'. 19.00 „Gawęda o współczesności'. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 „Monitor”. 20.10 „Proszę dzwonić” — program rozrywkowy. 20.55 „Almanach”. 21.25 Dziennik. 21.45 „Proszę dzwonić” c. d. programu rozrywkowego. 22.00 Sprawozdanie z meczu hokejowego Polska — Japonia. 22.30 Kino Interesujących Filmów: „Cud w Mediolanie” — film fab. wł.




**Piątek, 7 lutego**

8.00 Dziennik. 8.15 „Cuda przyrody”. 8.30 Przegląd muzyczny. 9.45 Koncert zespołu muzycznego. 14.40 Program dnia. 14.45 Dziennik. 15.00 Trybuna propagandzisty. „Spóścizna wielkich mówców”. 15.30 „Panorama nowin”. 16.00 „Twórcy słowa drukowanego”. 16.30 „Czyn”. 17.00 „Klub miłośników pieśni”. 18.00 „Sztafeta nowin”. 18.45 „Oskarżony nie przyszedł”. Film fabularny. 20.00 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie.

**Sobota, 8 lutego**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Człowiek i religia”. „Generał w sutannie”. Reportaż. 9.00 „Turniej muzyczny miast”. 10.00 „Jeszcze raz o nartach i kijach”. 10.30 „Kronika życia muzycznego republiki. Rok. 1940”. 11.15 „Białe i czarne”. 11.45 „Szkatułka muzyczna”. 12.00 „Kłos”. 13.00 TV barwna. 14.30 „Nowiny dnia”. 14.45 Dziennik. 15.00 Podróże TV. 15.50 J. Kupała. „Paulinka”. Spektakl Białoruskiego Państwowego Teatru Akademickiego w Mińsku. 18.00 „Szkice do portretu”. Film dokumentalny. 19.00 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie.

**Niedziela, 9 lutego**

8.00 „Kiosk muzyczny”. 8.30 „Bajki graficzne”. 9.00 „Skrzynka pocztowa olimpiady „Nauka zwyciężania”. 10.00 „Wiejski czas”. 11.00 Dla uczniów. 11.55 „Śpiewa N. Bogusławska”. 12.30 Dla żołnierzy. 13.00 70 lat Teatru Gorkiego w Moskwie. 15.00 Klub Filmowy. 16.00 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie. 18.00 „Siedem dni”. 18.45 TV barwna. 21.15 „Tydzień sportowy”.



 

НАСУСТРАЧ VI З'ЕЗДУ БГКТ

# Усебаковасць

Адной з найбольш станоўчых рыс у дзейнасці Мілейчыцкага аддзела БГКТ з'яўляецца ўсебаковасць. Аддзел, што-праўда, не прывязваў вялікай увагі да далейшага колькаснага развіцця арганізацыі. Так, напрыклад, колькасць членаў у 1968 годзе ўзрасла толькі на 9 асоб. Але ж справа тут не ў колькасці. Сілу і актыўнасць арганізацыі мерыцца не толькі лікамі яе членаў.

Больш істотным з'яўляецца тое, што з году ў год паляпшаецца якасць працы гурткоў БГКТ. Відаць гэта хаця б па ўзросце аплочвання членскіх складчын. У мінулым годзе аплата складчын узрасла на 467 злотых. Асаблівай пільнасцю ў аплочванні членскіх складчын адзначаліся гурткі ў Вілінаве, Рагачах, Мікулічах, Тымянцы і інш.

У састаў Мілейчыцкага аддзела БГКТ уваходзіць 17 гурткоў. Праца, якую праводзіць актыў БГКТ, не зводзіцца аднак да працы з членамі таварыства. Як правіла ў арганізаваных таварыствам мерапрыемствах прымае ўдзел ўся вёска. І вельмі слушна.

Найчасцей такія агульнавясковыя мерапрыемствы арганізуюцца ў сувязі з рознымі вялікімі гадавінамі. Мінулы год, як ведаем, не быў скупым у такія агульнанародныя гадавіны і святкаванні, якія стварылі дасканалыя аказіі да развівання добрай выхаваўчай работы сярод вясковага насельніцтва. Да такіх вялікіх гадавін належалі: 25 гадавіна Народнага Войска Польскага, 50 гадавіна заснавання КПП, 20 гадавіна ўз'яднання рабочага руху ў Польшчы, 50 гадавіна БССР, 50 гадавіна Савецкай Арміі і іншыя. У сувязі з усімі гэтымі святкаваннямі ў Мілейчыцкім БГКТ праводзіліся розныя формы працы з насельніцтвам: гутаркі, сустрэчы са старымі дзеячамі, акадэміі, урачыстыя вечарыны, даклады. У суме на працягу года праведзена каля 150 такіх мерапрыемстваў. У сувязі з 50 гадавінай узнікнення БССР, сарганізавана рухомую фотавыстаўку, якая пабывала аж у 38 мясцовасцях. У сувязі з гадавінаю заканчэння II сусветнай вайны Беларускае таварыства сарганізавала фестын, а таксама мітынг мясцовага насельніцтва на могільніку савецкіх салдат.

Не прайшла без увагі з боку БГКТ і такая вялікая ў жыцці ўсяго народа падзея, як V з'езд партыі. Ва ўсіх гуртках адбыліся сходы, на якіх сяляне-беларусы чыталі і аналізавалі тэзісы на V з'езд. Пасля з'езда гурткі знаёміліся з яго пастановамі. Актывісты Мілейчыцкага аддзела БГКТ уключыліся ў прапагаванне прац грамадскім чынам у гонар V з'езда партыі, а асабліва прац пры пабудове дарог. У Мілейчыцах сарганізавана сустрэчу з дэлегатам на V з'езд.

Ідэйна-выхаваўчая дзейнасць у асяроддзі, у якую асабліва багатым быў мінулы год, хаця з'яўляўся вельмі важнай формай працы аддзела БГКТ у Мілейчыцах, не была аднак формай адзінай. Важнай дзялянкай былі тыя формы працы, якія паўтараюцца з года ў год ад даўжэйшага часу. Гэта ў асноўным культурна-асветная праца ў асяроддзі. На першы план высоўваюцца тут аматарскія мастацкія гурткі. У Мілейчыцкім аддзеле існуе 11 такіх гурткоў. На працягу года сарганізавалі яны звыш 60 рознага роду мерапрыемстваў. Асаблівай актыўнасцю адзначаліся гурткі з Вілінава, Семіхочаў, Столбцаў і Верпаля. Праўленне аддзела вядзе пазычальню народных убораў і музычных інструментаў, што вельмі дапамагае мастацкім гурткам у іх працы. Не занядбоўваюць актывісты Мілейчыцкага аддзела БГКТ і працы з кніжкай, асабліва працы над пашырэннем чытальніцтва беларускай кніжкі і беларускага друку.

Можна было б пашыраць прыклады добрай працы гурткоў БГКТ у ваколіцах Мілейчыц. Але прыведзеных прыкладаў хопіць, каб сцвердзіць, што вядуць яны багатую, усебаковую дзейнасць.

**Ул. Паўлючук**

ЛЮДЗІ БГКТ

# Дзеяч свайго АСЯРОДДЗЯ



Лёня Харытанюк жыве яшчэ ў старой нізенькай саломай крытай хаце. У ёй і прастору дастаткова няма і малавата сонечнага свету трапляе праз невялікія вокны. Але тут жа пакрай сцяны старой хаты стаіць вялікі прыгожы мураваны будынак, якога асталося выканчыць і, вядома, выгадна жыць. Лёня пабудаваў новы дом, каб жыць лепш, святлей і весялей. Неяк будова гэтага новага дома вельмі характэрна для дзейнасці Лёні. Ён свайго роду будаўнік ўсяго новага, будаўнік лепшага, святлейшага заўтра. Лёня Харытанюк з'яўляецца партыйным дзеячам сваёй вёскі Паўлы і грамады Рыбалы. Як другі сакратар партыйнай арганізацыі і як член пленумаў грамадскага і павятовага камітэтаў ПАРП, на сходах і канферэнцыях усіх узроўняў прымае актыўны ўдзел у вырашэнні шматлікіх спраў свае вёскі і грамады. Лёню Харытанюка павятовая канферэнцыя выбрала дэлегатам Бельшчыны на ваяводскую справаздачна-выбарчую канферэнцыю. Тут ён выбраны быў членам ВК ПАРП.

Гэты 28-гадовы чалавек карыстаецца вялікай пашанаю сярод аднавяскоўцаў. Сельскагаспадарчы гурток у Паўлах на нядаўнім сваім сходзе абмеркаваў далейшую механізацыю сельскагаспадарчай вытворчасці. Усім вядома, што праца сельгасгуртка найбольш залежыць ад добрага кіраўніцтва прэзаса. Ад новага 1969 года гурткоўцы гэтае кіраўніцтва павeрылі Лёні Харытанюку. Ён сапраўдны дзеяч, дзеяч вялікага рангу. Аб гэтым сведчаць наступныя яго грамадскія функцыі: 1) старшыня гуртка Лігі абароны краіны ў Паўлах, 2) старшыня рады надзорчай спулдзельні здароўя ў Рыбалах, 3) член рады надзорчай раённай спулдзельні агароднічка-пчалярскай у Бельску, 4) член павятовага праўлення Лігі абароны краіны ў Бельску. Але гэта ж яшчэ не ўсё. Лёня Харытанюк з'яўляецца адным з найактыўнейшых членаў гуртка Беларускага таварыства. Гэтае сцвярджае старшыня гуртка ў Паўлах Мікалай Яканюк. Лёня з'яўляецца дасканалым артыстам свайго аматарскага драмгуртка.

У заключэнні можна сказаць аб Лёні Харытанюку толькі тое, што чалавек гэты ўсе сілы пакладае, каб жылося людзям лепш і весялей, чалавек гэты з адданасцю творыць толькі добрае. (мх)



Сямяцічы. Фота: Р. Сянько

ЦІКАВЫЯ КНІЖКІ

# CO SIĘ KOMU ŚNI

Так называецца кніжка вядомага польскага рэпарцёра Анджэя Мулярчыка, якую выпусціла выдавецтва «Іскры» ў канцы мінулага года. Анджэй Мулярчык, аўтар дзвюх рэпарцёрскіх кніжак: «Gwiazdy w kałużach» (1957) і «Metryki do wglądu» (1963, суаўтар К. Канкалеўскі), якія нарадзіліся ў выніку яго шматгадовых паездак па краіне. на гэты раз звярнуўся да тэмы гістарычнай. Хоць мо такое акрэсленне яго «сноў» і не зусім трапнае. Справа ў тым, што ў сваёй новай кніжцы апісвае Мулярчык лёсы сучасных людзей, грамадзян ПНР, на жыццё якіх, нягледзячы на звыш дваццацігадовую даўнасць усё яшчэ вялікі ўплыў мае апошняя вайна. Яна на мірнае жыццё гэтых людзей кладзе свой чорны цень. Можна сказаць, што герояў апошняй кніжкі Мулярчыка паўсядзённа праследуюць кашмары вайны, зрасліся яны з іх псіхікай, паводзінамі. Героі Мулярчыка выводзяцца з розных куткоў Польшчы. Ёсць і з Беласточчыны, і, што асабліва павінна зацікавіць нашых чытачоў, ёсць тут і беларус з Белавежы. Дарэчы, рэпартаж аб ім п.з. «Імша святога Губерта» і адкрывае гэту цікавую кніжку сучасных «сноў». (рл)

# КОНКУРС

У сувязі з пяцідзесяцігоддзем Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства аб'яўляе конкурс на тэму

## „МОЙ КАНТАКТ З БЕЛАРУССЮ“

Могуць гэта быць успаміны з гадоў вучобы, турыстычнай экскурсіі, пабыўкі ў сваякоў, службовай паездкі, вайсковай службы, супольнай рэвалюцыйнай і партызанскай барацьбы і іншых кантактаў. Усё, што Вас злучыла з Беларуссю на працягу яе 50-ці год жыцця, вартае ўвагі.

Конкурсныя працы не павінны быць большыя, чым 10 старонак машынадруку (вядома, калі не можаце перапісаць сваёй працы на пішучай машынцы, дасылайце ў рукапісным выглядзе). Пісаць можна на любой мове. Тэрмін конкурсу канчаецца 9 красавіка (кветня) гэтага года.

**Устанаўліваюцца наступныя ўзнагароды:**

**I – 1000 зл**

**II – 800 зл**

**III – 500 зл**

Апрача гэтага працы, якія займуць прызавыя месцы, а таксама іншыя, заквалifікаваныя конкурсным журы, будуць апублікаваны ў альманаху «Белавежа» і ў іншых выданнях БГКТ, за што аўтары іх атрымаюць нармальны ганарар.

Працы падпісваць трэба псеўданімам. А сваё сапраўднае прозвішча (разам з выбраным псеўданімам) і дакладны адрас трэба даслаць у асобным канверце. Абедзве перасылкі трэба слаць на адрас:

Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Białymstoku, ul. Warszawska 11.

На канверце дапісаць трэба: «конкурс».

Працы не павінны быць нідзе дагэтуль публікаваныя.

На старонках студзеньскага нумара

# ПОЛЫМЯ

Найцікавейшым матэрыялам нумара з'яўляецца нарыс Васіля Якавенкі «Зведай сваю зямлю». Гэта хвалюючая, часам нават драматычная, гісторыя пошукаў і адкрыцця беларускай нафты. Гісторыя барацьбы з кансерватызмам, бюракратызмам і іншымі перашкодамі, якія ўзнікалі на дарозе піянераў змагання за беларускую нафту. Старонкі зусім няведамыя, якіх не відаць было за газетнымі паведамленнямі аб адкрыцці тых ці іншых «месцанараджэнняў». Аўтар, закаханы ў родную зямлю, ставіць пры нагодзе пытанне належнага загаспадаравання Палесся, крытыкуючы датэтуляшнія метады.

Не менш цікавым матэрыялам ёсць артыкул вядомага беларускага перакладчыка Язэпа Семяжона аб укладзе беларускай літаратуры ў сусветную культуру. Тэма ў такіх маштабах пастаўлена ўпершыню. Для нашых настаўнікаў беларускай мовы праўдзівы скарб! Мноства зусім няведамых у нас фактаў.

Што рана гаварыць аб заміранні беларускай паэмы, сведчаць надрукаваныя ў «Полымі» паэмы Сяргея Грахоўскага і Анатоля Астрэйкі. Розныя па тэме і форме, даюць шмат свежых адчуванняў. Падобнае ўражанне пакідаюць таксама вершы Генадзя Бураўкіна і проза Леаніда Гаўрылкіна і Алеся Асіпенкі.

З іншых матэрыялаў варта аднатаваць артыкул намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР, Старшыні Дзяржплана БССР Піліпа Коханава аб развіцці беларускай прамысловасці, артыкул Георгія Герасіменкі аб станаўленні беларускіх кадраў, успаміны генерала Батава аб вызваленні Беларусі, разважанні Уладзіміра Калесніка аб заходнебеларускай паэзіі 20-х гадоў і публікацыю Янкі Саламевіча, у якой абапіраючыся на новыя архіўныя матэрыялы, аўтар расказвае пра фальклорныя зацікаўленні беларускага паэта XIX стагоддзя Адама Гурыновіча і сцвярджае. што архіў нядаўна памёршай у Торуні пляменніцы Адама Гурыновіча, праф. Яніны Гурыновіч мог бы раскрыць новыя старонкі з біяграфіі паэта. Ад сябе скажам: удзячная тэма для кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, або беларускай секцыі ПАН.

**Ювэ**

## Новая пласцінка Забэйды

Нядаўна выйшла ў Празе новая пласцінка Міхася Забэйды-Суміцкага. Наіграна на ёй 17 песняў-рамансаў Туранкова, Аладава, Багатырова, Алоўнікава, Пуксга, Чуркіна, Спаскага, Галкоўскага, Падкавырава і Забэйды на вершы Багдановіча, Купалы, Бядулі, Русака, Гурла, Машары, Глебкі, Танка і інш.

Пласцінка доўгаграючая ў двух варыянтах: адзін Stereo, нумар для заказа 1 12 0444F, другі звычайны Mono, нумар 0 12 0444F. Гэта на выпадак, калі б хто хацеў пласцінку заказаць, ці купіць, калі будзе ў Празе.

Прыпамінаем, што ў мінулым годзе ГП БГКТ таксама выдала доўтаграючую пласцінку Забэйды з 10 беларускімі песнямі (дарэчы, яны не паўтараюцца на пласцінцы пражскай) і яе можна набыць у ГП БГКТ, або атрымаць па пошце за «залічэннем паштовым». Заяўкі на пласцінку Забэйды, выдадзеную ў Польшчы, трэба складаць на адрас:

Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Białymstoku, ul. Warszawska 11.

(рл)




### Пластабетон супраць радыяцыі

Атамная энергія ўжо служыць чалавецтву на электрастанцыях. Але гэта яшчэ і радыяцыя, небяспечная для здароўя, жыцця. Звычайна для засцярогі ад яе ўжываюць цэментны бетон. Каб ён лепш працістаяў гама-выпраменьванню, у яго ўводзяць спецыяльныя цяжкія запаўняльнікі. А супраць нейтроннага патоку выкарыстоўваюць дабаўкі з невялікай атамнай вагой: бор, кадмій, літый.

Праўда, у бетона ёсць канкурэнт: пластмасы. Валодаючы павышанай колькасцю звязанага вадароду, яны засцерагаюць ад пагубнага выпраменьвання лепш, чым штучны камень, але затое намнога ўступаюць яму па сваіх фізіка-механічных уласцівасцях.

Савецкія вучоныя: кандыдат тэхнічных навук В. С. Логінаў, кандыдат хімічных навук Е. А. Кашкоўская і інжынер Н. А. Астаф'еў стварылі будаўнічы матэрыял, такі ж надзейны і прывычны, як бетон, і непранікальны для радыяцыі, як пластмасы. Гэта пластабетон. Ролю вяжучага рэчыва ў ім адыгрывае сінтэтычная поліэфірная смала, а запаўняльнікаў — барыт, графіт, сажа, карбід бору і іншыя злучэнні. Пластабетон добра працістаіць нейтроннаму і гама-выпраменьванням, пераўзыходзіць па засцерагальных якасцях звычайныя бетоны ў паўтара раза.




## Юбілей Польскага культурнага таварыства ў Венгрыі

Польскае культурнае таварыства імя Юзэфа Бэма ў Венгрыі адзначала 18 студзеня 10-годдзе свайго існавання. З гэтай аказіі праўленне Таварыства атрымала пісьмо з прывітаннямі і пажаданнямі поспехаў у далейшай дзейнасці ад I сакратара КЦ ВСПР, тав. Януша Кадара.

Варта прыпомніць, што пакліканне да жыцця Польскага культурнага таварыства спалучаецца з асобаю тав. Кадара. У 1958 г. — было гэта ў час візіту ў Венгрыі польскай партыйна-ўрадавай дэлегацыі з тав. Гамулкам і тав. Цыранкевічам — тав. Кадар падтрымаў прапанову ўтварэння такога Таварыства. У хуткім часе Таварыства пачало дзейнічаць.

У Венгрыі жыве зараз каля 7 тыс. палякаў, якія маюць у большасці вянгерскае грамадзянства. Ім, а таксама для шматлікіх венграў, Таварыства сталася цэнтрам культурнага жыцця і распаўсюджвання польска-вянгерскага сяброўства.

Тры гады назад Таварыства атрымала ў Будапешце новую прыгожую сядзібу. Знаходзіцца тут польская бібліятэка, дзейнічаюць мастацкія калектывы, праводзяцца курсы польскай мовы, шматлікія мерапрыемствы і сустрэчы. Таварыства мае багаты архіў дакументаў звязаных з жыццём палякаў у Венгрыі. Знаходзіцца ў ім шмат памятак па ген. Юзэфу Бэму.

У суботняй юбілейнай урачыстасці прынялі ўдзел шматлікія прадстаўнікі вянгерскай Палёніі. Прысутнічалі: пасол ПНР у Венгрыі — Ян Кільянчык, дэлегацыя Таварыства сувязі з заграніцай «Палёнія» з ген. Францішкам Скібінскім, прадстаўнікі КЦ ВСПР, міністэрства ўнутраных спраў і міністэрства культуры.

Аб дзейнасці Таварыства гаварыў старшыня праўлення Пётр Яблонскі. Заслужаныя дзеячы атрымалі памятныя медалі з адбіткам ген. Бэма. Потым адбылася мастацкая частка, у якой выступіў, між іншым, Бэрнард Ладыш.

Раніцай дэлегацыя Таварыства паклала вянок ля помніка ген. Бэма ў Будзе.

**(«Трыбуна Люду»)**

**На здымку: Від Будапешта з Гары Гелерта.** **Фота ЦАФ**

# ЗАГАДКІ ХАМЕЛЕОНА

Дзякуючы новым доследам вучоных мяняецца ўяўленне аб характары і звычках жывёліны, імя якой стала агульным.

**«Атлас» Парыж**

Хамелеон павольна перапаўзае з чырвонага квадрата на зялёны, з зялёнага — на чорны, захоўваючы ўсё той жа карычневы колер скуры. Гэты дослед паклаў канец старадаўняй легендзе, згодна з якой хамелеон валодае таямнічай здольнасцю мяняць сваю скуру ў залежнасці ад афарбоўкі акружаючага асяроддзя і хавацца такім чынам ад ворагаў: лічылася, што тут праяўляецца рэфлекс самаабароны.

У наш час заолагі заўважылі, што не мімікрыя ўплывае на афарбоўку скуры хамелеона, а іншыя, вельмі складаныя прычыны. У скуры хамелеона тры пласты пігментных клетак: першы — жоўты, другі — чорны з чырвоным і трэці — блакітны з белым.

У час доследу хамелеона некалькі разоў лёгенька стукнулі палкай. Ён адразу ж надзьмуўся, напоўніўшы зоб паветрам, застрашліва выгнуў спіну і раскрыў сківіцы. Скура яго з карычневай стала чорнай. Відаць, на пігментныя клеткі хамелеона ўздзейнічаюць розныя эмоцыі: аслабіўшы інтэнсіўнасць асвятлення, дабіваліся паблядnення скуры, той жа эфект назіраўся пры ахаладжэнні. На афарбоўку хамелеона ўплываюць розныя гармоны, але роля іх пакуль не высветлена; так, пры ўпырскванні адрэналіну пігментныя клеткі сціскаюцца.

Загадкі хамелеона не абмяжоўваюцца ўяўнай мімікрыяй. Здзіўляе яго незвычайнае ўменне хапаць здабычу. Жывёліна з маланкавай хуткасцю выкідвае ўперад свой язык, патоўшчаны кончык якога ўдарае насякомае і абцягвае яго клейкай вадкасцю. Робіць ён гэта з такой дакладнасцю, як быццам валодае спецыяльнай аптычнай канструкцыяй. Паводле найбольш прыймальнай тэорыі, вочы хамелеона даюць яму стэрэаскапічнае бачанне свету (яны могуць рухацца ў розных напрамках і бачыць адзін і той жа прадмет пад рознымі вугламі). Калі абодва ізабражэнні накладваюцца адно на адно, як гэта адбываецца ў дальнамеры фотаапарата, хамелеону лёгка «вызначыць» адлегласць да сваёй ахвяры.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Незвычайны ўлоў

Акула, або, як яе называюць на Адрыятычным узбярэжжы Югаславіі, «марскі пёс», даўжынёй амаль у 6 метраў і вагой у тысячу з лішнім кілаграмаў, злоўлена ў адкрытым моры ў 20 кіламетрах ад югаслаўскага гарадка Ровінь (паўночная частка Адрыятыкі). Для мясцовых жыхароў падобны ўлоў з'явіўся падзеяй, бо акулы, асабліва такой велічыні, рэдкія госці ў паўночнай частцы Адрыятыкі. Пасля таго, як бруха акулы распаролі, у яе былі знойдзены рэшткі авечкі, якая яшчэ не пераварылася.




Калі ў лютым трызаюць сталыя марозы — лета гарачае.

Калі на Грамніцы мароз — будзе хутка вясна, а калі не — будзе яшчэ снег і мароз.




### Селядзец з белымі грыбамі

На 500 гр. селядца — 100 гр. белых сушаных грыбоў, 2 цыбуліны, 2 адвараныя бульбіны, 0,5 шклянкі алею.

Селядзец вымачыць у малацэ, грыбы адварыць у вельмі малой колькасці вады. Вымачаны і пачышчаны селядзець прапусціць праз мясарубку, прапусціць праз мясарубку грыбы і бульбу. Усё старанна вымесіць драўлянай лыжкай, дадаўшы туды адвар ад грыбоў. Ачысціць 2 цыбуліны, тонка парэзаць і падсмажыць у алеі да залацістага колеру. Выняць цыбулю з алею, а алей уліць у селядзец з грыбамі і яшчэ раз старанна вымесіць. Пакласці на талерку і ўпрыгожыць падсмажанай цыбуляй.

Атрымаецца вельмі смачная закуска.

### Смажанне

Калі вы смажыце на сметанковым масле, каб яно не пацямнела, гарачую патэльню папярэдне змажце алеем.




### Як чысціць канькі

Канькі добра чысцяцца сумессю газы і алею. Можна іх спачатку змазаць алеем, а затым пачысціць анучкай, пасыпанай соллю.

### Сушэнне бялізны

Пакрухмаленую бялізну ніколі не сушыце на марозе, бо пры нізкай тэмпературы крухмал часткова ператвараецца ў цукар і бялізна становіцца клейкай, зусім страчвае цвёрдасць.

### Лінолеум

Рэлін, лінолеум захаваюцца больш працяглы час, калі іх змазваць сумессю алею і воцату ў роўных частках. Сумесь трэба добра размяшаць.

## Чвэрць стагоддзя назад




Вечар, мяцеліца. Высоўваемся з Нячаевым з лесу. Жыхары Дубна рыхтуюцца да сну. Падыходзім пад акно Тарлецкіх. У хаце цёмна, але ведаем, што гаспадары не спяць, чакаюць нас, сядзяць у цемры, каб нехта з суседзяў не прыйшоў. Стукаем у шыбу. Тры ўдары частыя, адзін за другім і два з паўзамі. Потым ідзем да дзвярэй. Адчыняе іх Уладзімір. Уваходзім. Замыкае за намі дзверы на ключ. Хрысціна завешвае акно, потым запальвае святло. Распранаемся. Гаспадыня налівае чай. Сядаем за стол, п'ем, гутарым аб пагодзе. У куце стаяць нашы аўтаматы. Унесеныя з марозу ў цёплае памяшканне зрабіліся шэрымі.

— А што чуваць на шырокім свеце? — змяняе тэму Нячаеў.

— Ёсць весткі ад Паўла, — гаворыць Хрысціна, і вымае з кішэні фартуха нейкія лісткі з адбітым на шапірографе нямецкім тэкстам. Падае іх мне.

Пераглядаю.

Сярод іх ёсць два ці тры пажоўклыя лісткі, вырваныя са школьнага сшытка, запісаныя не выпрацаваным почыркам нейкага вучня.

— А я пакажу вам падарунак ад Косці, — гаворыць Уладзімір і выймае з-пад ложка невялікі пачак. Распакаваў яго.

— Гэта, таварышы, радыёпрыёмнік, — гаворыць Уладзімір. — Зрабіў яго адзін інжынер, парадачны чалавек. Змесцім яго ў схоўку пад падлогай, антэну пусцім па сценах, пад тапэтай, ніхто не здагадаецца. Будзем прымаць паведамленні. Патрэбна машынка і шклограф.

Апарат быў малых памераў, але шасціляміпавы, адмыслова сканструяваны.

— Добра, што нарэшце маем яго, — сказаў Нячаеў. — Будзе таксама і пішучая машынка, таварыш Уладзімір. Не ўсё адразу.

Хрысціна падлажыла ў пліту некалькі паленаў.

— Гарачая вада ў гэтым гаршку, — сказала да нас, а потым звярнулася да мужа: — Ходзь, Валодзя, спаць, хай таварышы працуюць.

Тарлецкія выйшлі ў спальню.

— Ну, бярыся за справу, — сказаў Нячаеў. — Паглядзім, што піша Паўлік.

Падышоў я да пліты, адчыніў дзверы попельніка, узяў жменю попелу і ўсыпаў у вар. Пачакаў хвіліну, пакуль вада замянілася ў шчолач, потым зняў гаршчок з агню, прынёс на стол і паставіў на старой газеце.

Бралі мы перададзены нам Хрысцінай Тарлецкай лісткі і апускалі ў шчолач. Паміж радкамі старога тэксту з'явіліся новыя. Вывучалі мы іх з вялікай увагай.

— Ёсць тут нешта вельмі цікавае, — звярнуўся я да таварыша.

— Што менавіта?

— Паўлік паведамляе, што ўдалося яму наладзіць сувязь з арганізаванай групай людзей, якія працуюць на аэрадроме ў Беластоку. Да гэтай пары не было ў іх сувязі ні з кім, дзейнічалі самастойна. Групай кіруе савецкі грамадзянін, нейкі Пётр Найдзенка. Памагае яму нейкі Ракавец. Таксама савецкі грамадзянін. Лічыцца інжынерам. Група гэта зрабіла некалькі актаў дыверсіі на аэрадроме. У маі 1942 года былі падпалены ёю ангары і рамонтны варштат. У жніўні 1942 года пашкодзіла станцыю помпаў высокага ціску. У студзені 1943 года выклікала пажар у казармах. Казармы згарэлі. У сакавіку 1943 года спаліла афіцэрскую сталовую разам са складам прадуктаў. 1 ліпеня 1943 года зноў пашкодзіла помпы. Дзейнічаюць вельмі асцярожна. Немцы ім давяраюць.

— Што яшчэ?

— Апісанне аэрадрома. Месцы складаў гаручага, тыпы і колькасць самалётаў, колькасць лётчыкаў. I месца складаў авіябоепрыпасаў, пятнаццаць кіламетраў ад Беластока. Павел просіць далейшых указанняў.

— Хай дакладна праверыць гэтыя факты. Мо рабіў гэта хто іншы. Можна ўлезці ў пастку. Паставіць перад імі заданне: хай у гэтым месяцы зробяць яшчэ адну дыверсію. Зіма, хай тады паспрабуюць падпаліць казармы, хай фрыцы пабегаюць на марозе ў кальсонах. Гэта будзе наша плата за бамбардаванне Палесся. Дзе тыя двое жывуць: на аэрадроме, ці ў горадзе?

— У горадзе. Адзін недзе на вуліцы Вашынгтона. Гэта Ракавец. Дзе другі, не паведамляе.

— Трэба зрабіць так, каб пажар узнік абавязкова ноччу над раніцай. Калі выканаюць гэтае заданне, будзем мець упэўненасць, што няма тут правакацыі. I скончыць з дыверсіямі. Ін-

# ТРЫБУНА чытачоў

### ПАДЗЯКА

**Dyrekcja i Rada Pensjonariuszy Państwowego Domu Rencistów w Jałówce, pow. białostocki, za pośrednictwem Redakcji „Niwy" pragnie złożyć serdeczne podziękowanie Zarządowi Głównemu Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Białymstoku za pomoc materialną udzieloną naszemu Zakładowi w postaci nadesłanej odzieży. Pragniemy zarazem nadmienić, że współpraca białoruskiego przedstawicielstwa z naszym Zakładem pomyślnie rozwija się już od dawna. Odwiedzają nas redaktorzy białoruscy, a nawet poeci białoruscy z Warszawy.**

**Ich gawędy z naszymi ludźmi, przedstawienia urywków swej bogatej twórczości wzbudziły naprawdę wielkie zainteresowanie i pozostaną na długo w pamięci.**

**Nadmieniamy, że w Zakładzie naszym zamieszkuje wielu Białorusinów, a nawet Rosjan, sympatyków mowy i twórczości białoruskiej. Żywimy nadzieję, że współpraca nasza będzie coraz mocniejsza, trwalsza dla obupólnych naszych korzyści.**

**Za Radę Pensjonariuszy:**
**(—) EJSMONT STANISŁAW**
**Dyrektor Zakładu**
**(—) ANTONI ZIMNOCH**

### КАТОК

Спартыўныя ўлады Беластока арганізавалі конкурс на «Найлепшы каток 1969 года». У Гайнаўскім павеце да конкурсу прыступілі дзве школы: тэхнікум драўлянага промыслу і ліцэй нумар 9. Школьнікі шмат гадзін працавалі, каб асфальтную пліту заліць вадою і замяніць у каток. Ахвотных да катання на каньках многа і сярод моладзі і старэйшых жыхароў горада.

Гадзіны карыстання з ледзянога катка аднак абмежаваны, і то з прычын аб'ектыўных, а менавіта: няма асвятлення і радыёфанізацыі.

**Янцал**

### ЁЛКА

19 студзеня адбылася ў школе ў Паўлах навагодняя ёлка. На ёлку прыйшло многа людзей. Была таксама моладзь з Давідавіч і Сацаў.

Школьнікі чыталі вершы, спявалі песні і танцавалі. Пасля заканчэння дзіцячага рэпертуару пачалася патанцоўка для моладзі і старэйшых.

**Я. К.**
**Паўлы**

### НАВАГОДНЯЯ ЁЛКА

Урачыстасці з навагодняй ёлкі адбыліся ў Дубічах Царкоўных 20 студзеня ў святліцы. На сцэне выступалі вучні, спявалі розныя песні, у тым і беларускія, чыталі вершы і скетчы.

Самай важнай часткай урачыстасці быў прыезд дзеда Мароза, які пачаў раздаваць дзецям падарункі. Цяжка расказаць, з якім хваляваннем і радасцю дзеці бралі гэтыя падарункі.

У ролі заснежанага дзеда Мароза выступаў настаўнік Пятро Варанько. На заканчэнне адбылася вучнёўская забава. На акардэоне іграді школьныя гарманісты: Іван Герасімюк і Іван Рыбак.

**М. Панфілюк**
**Дубічы Царкоўныя**

### Дарагое Сэрцайка!

Жыву я на вёсцы, застаўся адзін у бацькоў. Гаспадарку маю добрую. Браты мае пажаніліся і выехалі ў горад, дзе пабудавалі сабе дамы і ўжо ніколі не вернуцца на вёску. Мне на гаспадарцы вельмі добра. Надумаўся я жаніцца. Пазнаёміўся з Л. Яна мне вельмі спадабалася. Мы з ёю доўга сябравалі, гаварыла, што мяне кахае. Аднак калі я ёй сказаў аб жаніцьбе, то яна мне адказала, што можа выйсці за мяне, але толькі тады, калі я выеду ў горад. Так мы і разышліся. Пасля нейкага часу пазнаёміўся я з В. з суседняй вёскі. Яна мне таксама спадабалася. Танцаваў з ёю цэлы вечар. А калі сказаў ёй аб жаніцьбе, і што дзіўнае, учуў тое самае, што і ад Л. Думаў спачатку, што яна жартуе, аднак пры другой нашай сустрэчы яна пачала нагаварваць мяне, каб я кінуў гаспадарку і пайшоў у горад, бо на гаспадарцы многа работы. Я таксама не згадзіўся. Не ведаю цяпер, што рабіць, бо шкада і гаспадаркі і бацькоў. Тым больш, што я ўжо працаваў нейкі час у горадзе і нацешыўся горадам. Парай, што рабіць.

**Міша з Бельшчыны**

## Сардэчныя ТАЙНЫ

**Дарагі Міша!** Відаць, што Л. не кахала цябе, бо калі дзяўчына кахае хлопца, дык згодзіцца ісці з ім, як кажуць, «на край свету». Таму не маеш патрэбы шкадаваць яе. Гэта дзяўчына, якая за ўсялякую цану пастанавіла быць «паняй». Тое ж самае магу табе сказаць і аб В. Па-першае, дык ты зарана (пры першай сустрэчы) сказаў В. аб жаніцьбе, а па-другое — яна таксама пастанавіла зрабіць «кар'еру» — (гэта ў яе паняцці) — выйсці замуж у горад, бо там мала працы. А ты ўжо, як пішаш, працаваў і жыў у горадзе і ведаеш напэўна, што ўсюды трэба працаваць. Не маючы прафесіі ў горадзе нялёгка. А ў цябе ж гаспадарка, як пішаш, добрая, і тут, думаю, трэба толькі ўмела і добра працаваць, дык напэўна ўсяго будзе вам удосталь. Ні ў якім выпадку не раю табе слухацца такіх дзяўчат. Гэта ты толькі на такія трапіў, бо многа ж ёсць дзяўчат, якія думаюць інакш, чым Л. і В. І напэўна не будзеш мець цяжкасцей іх знайсці. Разгледзіся добра, пры першай сустрэчы не прапануй жаніцьбы, бо трэба найперш пазнаць сваю будучую жонку, а потым рашыць, каб яна была жонкай.

**Жадаю поспехаў**
**Сэрцайка**

У нашай вёсцы

### КЛОПАТ З ТЭЛЕВІЗАРАМ

Шмат добрага пісалася ў газетах пра вёску Паўлы і яе жыхароў. Многа чулася пра моладзь і гурток БГКТ. Але гэта не ўсё.

Ёсць у Паўлах тэлевізар, якога можна аглядаць, як кажуць, толькі ў вялікае свята. Стаіць ён у школе і няма каму яго ўключыць. Настаўнікаў ніхто не збіраецца змушаць да гэтага, бо ведаем, што яны самі маюць многа свае работы. Штодзённа пішуць канспекты, правяраюць сшыткі і г.д. Сторож школьны да гэтага таксама не бярэцца, бо мае іншую работу. Часам бывае і так. Настаўнікі, маючы вольны час, калі самі хочуць аглядаць тэлевізар, уключаюць яго толькі сабе ў сваёй канцылярыі. А чаму не вынесці ў вялікую школьную залу, каб мог хто-небудзь прыйсці з жыхароў і таксама паслухаць апошніх паведамленняў.

12 студзеня а гадзіне $20^{50}$ быў фільм «Крокі ў імгле». Многа людзей сабралася каля школы, хацелі пабачыць гэты фільм. Але нічога з гэтага. Не асмеліліся звярнуцца з гэтым да настаўнікаў. І так далей тэлевізар «іграў» у канцылярыі для чатырох гледачоў.

### НА КОЛЯДЫ

Моладзь вёскі Паўлы рабіла забаву ў прыватным памяшканні. Ігралі: Віця і Ваня Мартынюкі. Слаўныя музыканты на ўсю ваколіцу. Многа моладзі было з чужых вёсак. Усё адбывалася весела і прыгожа. На забаву бралі дазвол у МО ў Храбалах. Парадку на забаве пільнавалі А. Матэльскі і З. Казалеўскі.

**Міколка Я.**
**Бельскі павет**

### НЕДАХОПЫ ПР-АЎ

Усім вядома, што калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР-ы) прычыняюцца да пашырэння сельскагаспадарчай асветы, да павелічэння колькасці кваліфікаваных гаспадароў. Але адначасова ПР-ы маюць шмат нявырашаных праблем, шмат цяжкасцей. А вось некаторыя з іх: 1) недахоп адпаведнай кадры, якая апекавалася б працай ПР-аў штодзённа. 2) частая перамена месца жыхарства настаўнікаў пачатковых школ, 3) нізкая зарплата за працу апекуноў у гэтых калектывах, 4) цякучасць моладзі, прычынай чаго з'яўляецца адыход у армію, 5) выезды на сезонныя работы. Усё гэта прычыняецца да таго, што колькасць заканчваючых навуку ў ПР-ах невялікая ў параўнанні да тае колькасці хлопцаў і дзяўчат, якія пачынаюць вучобу ў гэтых калектывах. І так, у 1967 годзе на Гайнаўшчыне навучэнцаў ПР-аў было 666 асоб, а абсальвентаў 124. Спраўнасць навучання была 66,6%. У 1968 годзе вучылася ў ПР-ах 558 чалавек, абсальвентаў было 122, а спраўнасць не дасягнула 66%.

**Віталіс Назарук**
**Гайнаўка**

### АБГАВОРСТВА

Моладзь любіць гуляць і нічога ў тым дзіўнага. На вёсцы так прынялося, што ніводная забава моладзі не абыйшлася без гледачоў. Так ужо ёсць у вёсцы Навакорніна (Гайнаўскі павет). Як толькі моладзь арганізуе патанцоўку, зараз збіраюцца старэйшыя кабеты. Займаюць яны месцы ля сцяны і ўсе вольныя крэслы. Моладзь у час перапынку паміж танцамі не мае дзе сесці і пастаяць. А назаўтра ўжо па вёсцы кружаць розныя плёткі аб моладзі: якія хто мае ногі, якая дзяўчына з якім хлопцам гуляла, а дзе і з кім вышла, з кім хто пасварыўся, як хто быў апрануты і г.д. Так абгаворваюць, што на многіх, як кажуць, не астанецца сухой ніткі, абгаворваюць ад ног да галавы. Старэйшых трэба шанаваць, я таксама затым, але няхай і старэйшыя шануюць нас, няхай перастануць пляткаваць, бо ўсё гэта даводзіць да спрэчак дзяўчат, а хлопцаў нават да рукапашкі.

**Н. Б.**
**Навакорніна**

### ВЕСЕЛА І КУЛЬТУРНА...

...прайшлі Коляды ў нашым сяле ў гэтым годзе. Традыцыйным звычаем на першы дзень Коляд дзеці да 15-ці год пачалі калядаванне, а потым старэйшыя жанчыны. Вельмі цікава было паслухаць песні ў іх выкананні. Шкада, што БГКТ не пастараецца ўзяць у свой музей у Белавежы калядкай звязды. Яна ж таксама з'яўляецца «забыткам».

**Ваня Кірыдзюк**
**Крывяцічы**

### АДЗІН З ЛЕПШЫХ

Адным з лепшых гурткоў ЛОК (Лігі абароны краіны) ў Гайнаўскім павеце з'яўляецца гурток ЛОК у вёсцы Старое Беразова. Узначальвае яго падафіцэр рэзервы Мікалай Семянюк.

Гурток ЛОК налічвае 28 членаў. Належаць да яго вясковыя хлопцы і дзяўчаты. У гуртку сістэматычна адбываюцца пасяджэнні і сходы. Штомесяц адбываюцца сустрэчы з афіцэрамі. Члены гуртка вучацца на курсах на права язды на матацыклах. У мінулым годзе члены ЛОК сарганізавалі матацыклавы райд па Гайнаўшчыне. Быў ён спалучаны з рознымі гульнямі. ЛОК-аўцы любяць спорт і арганізуюць у сябе розныя спартыўныя спаборніцтвы.

**Янка Цялушэцкі**
**Новае Ляўкова**

фармацыя будзе больш важнай.

— А што ў цябе? — спытаў я.

— А, піша, што нават тытунёвая фабрыка выраблявае часткі да гранатаў. Прапануе спаліць Сольдатэнгайм. Нічога там цікавага нашы людзі не могуць дастаць. Папойкі, оргіі, прастытуткі. Думаю, што маюць рацыю. Трэба будзе ліквідаваць гэтае гняздо гітлераўскай распусты. Падумай, як гэта зрабіць. У адным і другім выпадку.

— Маеш на думцы таксама аэрадром?

— Зразумела. Але фахова, без рызыкі... «Дуб» трапіў на камуністычную арганізацыю, нейкі Антыфашысцкі камітэт. Паведамляе, што гэта шматлікая арганізацыя. Пытаецца, ці можна наладзіць з ёю кантакт. Што ты аб гэтым думаеш?

— Думаю, што кантактаў з масавымі арганізацыямі трэба нам пазбягаць і трымацца ад іх чым далей. Масавым арганізацыям спадарожнічаюць масавыя правалы. А ў нас акрэсленае заданне і мы не павінны рызыкаваць.

Як ужо я ўспамінаў, у Сольдатэнгайме ў Беластоку мелі мы сваіх людзей — Прыпанюк, псеўданім «Точка», і Веру Пракоф'еву, псеўданім «Ванька». Падпаліць Сольдатэнгайм трэба было ў такім месцы, каб пажар мог выклікаць як найбольшыя страты. Як вынікала з разведкі, такім месцам быў прадуктовы склад. Было там шмат прадуктаў, а між імі прадукты лёгкія на згаранне: алей, маргарын і іншыя тлушчы. Аднак увахол у склад асобам пастаронкім быў строга забаронены. Ні Прыпанюк, ні Пракоф'ева непасрэдна ўвайсці туды не маглі. Не можна ж было падпаліць складу ў прысутнасці кладаўшчыка, які адказваў за склад. Трэба было знайсці іншы выхад. «Ванька» працавала ў кухні. Даволі часта пасылалі яе ў склад па прадукты. Трэба было зрабіць так, каб разам з ёй мог пайсці і «Точка».

Вывучыўшы становішча, пастанавілі мы спаліць будынак пры дапамозе адпаведна змайстраванага зараду. Падрыхтоўкай такога зараду меў заняцца я. Неўзабаве я падрыхтаваў два зарады, адзін для Сольдатэнгайму, другі — для аэрадрому. Гэтыя зарады былі высланы ў Беласток.

Па нейкім часе Паўлік паведаміў, што згарэў не толькі склад Сольдатэнгайму, але і ўвесь будынак. Гестапа арыштавала звыш дзесятка асоб з абслугі. Сярод арыштаваных — «Точка». Аб яго лёсе Паўлік нічога не ведаў. Паведамляў таксама ён і аб другім пажары на аэрадроме. Спалілася там частка казармаў.

Яшчэ за тыдзень, з наступных паведамленняў, даведаліся мы, што немцы выпусцілі арыштаваных па прычыне пажару людзей. Вярнуўся таксама з турмы і наш «Точка». Паўлік атрымаў загад спыніць з ім кантакт.

**Ян Анацік**

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Trzydzieści trzy" (radz.), 11—12. „Niewidzialny batalion" (jugosł.), 13—14. „Swiat grozy" (polski), 15—16.

**Дубіны**

„Intrygantki" (czeski), „Noc berety" (polski), 12—16.

**Нараўка**

„Zamach" (polski), „Czerwone berety)) (polski), 12—16.

**Нарва**

„Szybsza od wiatru" (radz.), „Falstaff" (hiszpański), 12—16.

**Чыжы**

„Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), „Nikt nie chciał umierać" (radz.), 12—16.

**Дубічы Царкоўныя**

„Mój przyjaciel Delfin" (USA), „Mocne uderzenie" (polski), 12—16.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Byłam głupią dziewczyną" (węgierski) „Ach ci młodzi" (węgierski), 12—16.

**Орля**

„Gdzie jest generał" (polski), „Czerwone berety" (polski), 12—16.

**Райск**

„Trzydzieści trzy" (radz.), „Noc bez końca" (bułg.), 12—16.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Drewniany różaniec" (polski), „Trzy topole" (radz.), 11—14.

**Міхалова**

„Orkiestra wojskowa" (węgierski), 11—12. „Szkarłatne godło odwagi" (USA), 13—14. „Nieujarzmione miasto" (polski), 15—16.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Śmierć Belli" (franc.), 11—12. „Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów (jugosł.), 13—14. „Weekend z dziewczyną" (polski), 15—16.

**Шудзялава**

„Hrabina Cosel" (polski), „Spotkanie na przeprawie" (radziecki), 12—16.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Kalosze szczęścia" (polski), „Czas miłości" (rumuński) 12—16.

**Новы Двор**

„O czymś innym" (czeski), „Sam pośród miasta" (polski), 15—16.

**Ліпск**

„Poranki młodości" (rumuński), „Romanca na trąbkę" (czeski, 12—16.


## Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7013

